

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№5 (223) САКАВІК 2017 ГОД


ПАРАДАК НА ЗЯМЛІ

## КАЛЯ ДАМОЎ АГАРОДАЎ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ

**Гаворка ідзе пра так званыя незаконныя ўчасткі. Перш за ўсё пытанне тычыцца агародаў на прыдамавой тэрыторыі ля дома № 2 па вуліцы Шумілінскай, ля дамоў па вул. Юбілейнай, якія ідуць уздоўж аўтатрасы Р-20 (ад дома № 25 да магазіна «Юбілейны») і ля некаторых іншых шматпавярховак.**

Камунальныя службы раёна інфармуюць, што згодна з Жыллёвым кодэксам прыдамавая тэрыторыя — гэта частка агульнай маёмасці шматпавярховага домабудаўніцтва, якое складаецца з зямельнага ўчастка пад будынкам, зялёных насаджэнняў, дапаможных пабудоў (падстанцый, дзіцячых пляцовак і інш.). Асноўнае прызначэнне гэтай зямлі — эксплуатацыя і абслугоўванне жылых памяшканняў.

Менавіта таму да кожнай шматпавярховкі павінен быць добры доступ для камунальнікаў. Як вядома, гэта робіцца для таго, каб памяняць цеплатрасу ці адрамантаваць водаправодныя трубы. Ля некаторых дамоў райцэнтра такога свабоднага доступу няма — перашкаджаюць агароды. Тым не менш, работнікі камунгасу сёлета плануюць перакладваць цеплатрасу ад завулка Механічнага да дома № 5 па вуліцы Дубасарскага, па вуліцах Суворава і 70 год БССР. А ў доме № 2 па вуліцы Шумілінскай будуць рамантаваць швы і замазваць трэшчыны.

«Выкарыстанне зямельнага ўчастка для агародніцтва без рашэння раённага, сельскіх выканаўчых камітэтаў, размяшчэнне на землях агульнага карыстання часовай пабудовы, складзіраванне пяску, дроў, будаўнічых матэрыялаў і г. д. з'яўляюцца самавольным заняццем зямельнага ўчастка, — паведаміла начальнік землеўпарадкавальнай службы райвыканкама З. Ф. Алюліна. За такое парушэнне згодна з арт. 23.41 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях пагражае штраф у памеры ад 10 да 30 БВ на фізічную асобу, ад 20 да 100 БВ на індывідуальнага прадпрымальніка, ад 50 да 300 БВ — на юрыдычную асобу. Каб не даводзіць да канфліктных сітуацый і не прымушаць камунальнікаў знішчаць усходы гародніны, яе не варта саджаць ля шматпавярховых дамоў.

Перш за ўсё гаворка ідзе пра агароды ля дома № 2 па вуліцы Шумілінскай, ля дамоў па вул. Юбілейнай, якія ідуць уздоўж аўтатрасы Р-20 (ад дома № 25 да магазіна «Юбілейны») і ля некаторых іншых шматпавярховак. Прычым, нельга не толькі самавольна займаць зямлю пад агародніцтва, але і саджаць там дрэвы і кусты без узгаднення з аддзелам архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама.

**Ян Вайтовіч**

АДУКАЦЫЯ

## ЗАКРЫЦЦЁ ШКОЛ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**У 2017 годзе на Віцебшчыне плануецца закрыццё больш за 40 малакамплектных школ - іншага выйсця мясцовыя ўлады не бачаць. Дэмаграфічная сітуацыя ў сельскай мясцовасці, дзе часта колькасць вучняў прыкладна роўна ліку педагогаў і тэхнічнага персаналу, прымушае задумацца пра далейшы лёс такіх устаноў адукацыі.**

Сёння на Віцебшчыне функцыянуе 37 школ (некаторыя з пачным ацяпленнем), дзе менш за 25 вучняў, у 31 навучаецца менш за 50 чалавек. Тут выдаткі на аднаго навучэнца значна перавышае сяраднеабласныя паказчыкі.

Таму ў гэтым годзе будзе аптымізавана 45 малакамплектных школ, у якіх займаюцца 1 405 чалавек (50% з іх падвозіў да месца навучання). Гэта робіцца не толькі дзеля эканоміі, але і для стварэння роўных умоў навучання для сельскіх і гарадскіх навучэнцаў.

Вызваленыя сродкі плануецца накіраваць на ўдасканаленне матэрыяльна-тэхнічнай базы апорных школ, якія застануцца ў рэгіёнах.

Да таго ж у 2018 годзе агульная і сярэдняя адукацыя Беларусі перакладаецца на нарматыўнае фінансаванне, гэта значыць на аднаго вучня будзе вылучацца пэўная сума. Таму якасць навучання і магчымасці кожнай асобнай школы будуць залежаць ад колькасці навучэнцаў.

У 2016-м годзе было зачынена 21 і рэарганізавана 29 устаноў агульнай і сярэдняй адукацыі, 17 дзіцячых садоў. За 4 месяцы з пачатку навучальнага года зэканомлена больш за 28 млрд. недамінаваных рублёў, якія накіраваны на бягучы і капітальны рамонт іншых школ. Пытанні працаўладкавання педагогаўвызваляўшасядаволіпаспяхова. У 2017-м неабходна асаблівую ўвагу надаць перападрыхтоўцы кадраў і ўнутранай міграцыі. Найбольшая колькасць працуючых пенсіянераў ва ўстановах адукацыі Гарадоцкага, Ушацкага, Лёзненскага, Пастаўскага і Лепельскага раёнаў.

Па словах Мікалая Шарстнёва, улады разумеюць усю хваравітасць і складанасць рэарганізацыі. Але іншага выйсця няма. Сёння на кожную сельскую школу немагчыма набыць сучаснае абсталяванне, фінансаванне ідзе толькі на пакрыццё выдаткаў. Таму выхад у канцэнтрацыі сродкаў, каб павысіць якасць адукацыі. Для падвозу навучэнцаў будзе заменены аўтобусны парк. Мясцовыя ўлады павінны вызначыцца з лёсам памяшканняў закрытых школ.

Уся вызначаная праца па аптымізацыі павінна быць завершана ў 2017 годзе, каб на працягу 5 – 10 гадоў да яе не вяртацца.

**Ян Вайтовіч**

*ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY*

ЭКАЛОГІЯ

## ЗА ВЫВАЗ СМЕЦЦЯ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ

**У Шумілінскім раёне толькі 21,6% уладальнікаў прыватных дамоў у сельскай мясцовасці заключылі дагаворы на вываз смецця.**

Усяго па Віцебскай вобласці 43% уладальнікаў аднакватэрных жылых дамоў, размешчаных у сельскіх населеных пунктах, заключылі дагаворы на вываз цвёрдых камунальных адходаў.Найбольш нізкі працэнт заключаных дагавораў у Шаркаўшчынскім (11,4%), Мёрскім (12,3%), Браслаўскім (19,6%), Пастаўскім (20,3%), Шумілінскім (21,6%), Бешанковіцкім (22, 9%), Чашніцкім(24,2%),Докшыцкім(24,3%) раёнах. У той жа час у Лепельскім, Расонскім, Аршанскім і Полацкім раёнах гэты паказчык вышэй – 76%, паведаміў начальнік упраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі аблвыканкама Юрый Дзядзёла на сесіі абласнога Савета дэпутатаў.

Дагаворнеабходныдляпаляпшэння ўзроўню добраўпарадкавання сельскіх населеных пунктаў, захавання патрабаванняў прыродаахоўнага заканадаўства.

– У кожным раёне праца пабудавана па-рознаму. Але ў першую чаргу, складана перадужаць пазіцыю насельніцтва, таму што паўстагоддзя смецце ніхто нікуды не вывозіў, яго проста спальвалі на падворках, закопвалііабовыкідаліўяр,утвараючы тым самым несанкцыянаваныя звалкі. Але на двары XXI стагоддзе, і трэба гэтую працу парадкаваць, тым больш што мы абавязаны збіраць другасныя матэрыяльныя рэсурсы, – падкрэсліў Юрый Дзядзёла.

У сваю чаргу старшыня абласнога Савета дэпутатаў Уладзімір Цырэнцьеў даручыў старшыням сельсаветаў ўшчыльную заняцца пытаннем навядзення парадку на зямлі.

**Ян Вайтовіч**

СВАБОДА СЛОВА

## ЗАТРЫМАННЕ ЖУРНАЛІСТАЎ

**18 сакавіка па дарозе з Віцебску ў Наваполацк у Шумілінскім раёне супрацоўнікі ДАІ затрымалі аўтамабіль з журналістамі Сяргеем Русецкім і Уладзімірам Лунёвым, паведамляе «Радыё Свабода».**

Спачатку іх абвінавацілі ў парушэньні правілаў дарожнага руху і адпусцілі. Пазней іх зноў затрымалі, ужо ў Полацкім раёне. З паведамленняў журналістаў вынікала, што «іх павезлі у Полацкі РАУС. Міліцыянты паведамілі, што будуць правяраць, ці не перабітыя нумары на кузаве аўтамабіля».

Паводле звестак праваабаронцаў, з пачатку сакавіка больш за 200 апазіцыянэраў, журналістаў, актывістаў, праваабаронцаў і радавых грамадзян затрыманыя падчас пратэстаў, звязаных з будаўніцтвам бізнес-цэнтра ў Курапатах і падаткам на дармаедства. Пасля акцый пратэсту супраць падатку на дармаедства ў Беларусі прайшлі суды над затрыманымі, людзі атрымалі штрафы і арышты да 15 сутак.

**Алесь Прыбярэжны**

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

## НАТУРПРАДУКТ З ШУМІЛІНА

**Як вырабляецца і правяраецца прадукцыя для «Мясной крамы»? У асноўным жаночы калектыў перапрацоўчага цэха ТАА «Віткoнпрадукт» радуе нас вынікамі сваёй працы і ў будні, і ў святы.**

Вядома, што настрой і працаздольнасць залежаць і ад таго, што мы спажываем кожны дзень. Дыетолагі настойваюць на збалансаваным харчаванні, а гэта азначае, што без мяса не абыйсціся, вядома, у разумных межах. Медыкі рэкамендуюць з мясной прадукцыі аддаваць перавагу мясу куранят-

***(працяг на стр. 2)***

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

*(пачатак на стр. 1)*
бройлераў, таму што яно найбольш дыетычнае, чыстае, багатае на вітаміны і мікраэлементы. Ды і танней, шчыра кажучы. Прадукцыю менавіта з такімі характарыстыкамі – здаровую, натуральную і смачную – вырабляе ТАА «Вітконпрадукт».

У Шумілінскім раёне знаходзіцца забойны цэх прадпрыемства, дзе працуюць каля 400 чалавек. Тутпрацуеаўтаматычнаялінія забою птушкі, трыбушэння, вадзянога і паветранага астуджэння, раздзелкі, камеры шокавай замаразкі. Дзякуючы такому спосабу замаразкі мяса захоўвае свае карысныяўласцівасці.Удзень выбраляецца ад 30 да 50 тон прадукцыі: мяса куранят-бройлераў, субпрадуктаў, паўфабрыкатаў хуткага прыгатавання. Гэта вельмі зручна – 10 хвілін і вячэра гатова! Выпускаюць таксама гатовыя вырабы – каўбасы, сасіскі, рулеты, розныя вэнджаніна і іншае.

Абсталяванне цэха увесь час мадэрнізуецца. Галандская тэхналогія забою, швейцарскія ўпаковачныя машыны, нямецкі вагавой комплекс, бескантактныя сантэхніка, спецвопратка у кожнага работніка – усюды чысціня і парадак. Цэх абсталяваны кампутарнай тэхнікай, што дазваляе адначасова працаваць у адзінай сеткі і абменьвацца дадзенымі з усімі структурнымі падраздзяленнямі.

Начальнік цэха Павел Шустроў распавёў, што ўся сістэма аўтаматызаваная, таму працэс працы бесперапынны:

– На тэрыторыі цэха ёсць яшчэ ўчасткі раздзелкі, вырабу каўбасных вырабаў. У суткі вырабляем да 10 тон варана-вэнджаных вырабаў. Прадукцыя ў асноўным пастаўляецца на наш рынак, частка – у Расію і Казахстан.

У гэтым цэху, нягледзячы на спецыфіку, у асноўным працуюць жанчыны. Інжынер па якасці Наталля Дзмітрыенка працуе тут ужо пяць гадоў. Кантралюе, каб на ўсіх этапах працы выконваліся ўстаноўленыя нормы.

– Працэдура кантролю дакументавана. Усё, што завозіцца на прадпрыемства - спецыі, кардон, пакеты, этыкеткііiншае–мыдасканала правяраем. Усе куранятыбройлеры, якія паступаюць на забой, нягледзячы на тое, што яны вырашчаны ў цэхах ТАА «Вітконпрадукт» без выкарыстання антыбіётыкаў і гармонаў, праходзяць строгі ветэрынарны кантроль на ўсіх этапах перапрацоўкі. Калі нешта не задавальняе, то прадукт утылізуецца – падкрэсліла Дзмітрыенка.

У працы цэха важна, каб не парушаўся тэхналагічны працэс. У першую чаргу павінна выконвацца пэўная тэмпература пры тэрмічнай апрацоўцы каўбас, захоўванні на складах прадукцыі, каб яна не сапсаваліся.

На ўчастку варана-вэнджаных вырабаў працуюць каля 80 чалавек. Тэхнолаг Кацярына Кабачэўская адзначыла, што ўмовы добрыя, калектыў згуртаваны. Мужчыны замешваюць мясную масу, бо гэта цяжкая фізічная праца, а фармоўкай і ўпакоўваннем займаюцца жанчыны. Харчовыя дабаўкі і спецыі натуральныя і закупляюцца ў Славакіі. Пры вэнджанні выкарыстоўваюць пілавінне з натуральнай драўніны – бука або алешыны, што не дапускае падвышанай канцэрагеннасці вэнджаных прадуктаў. Уся гатовая прадукцыя на 80 адсоткаў і больш складаецца з мяса куранят-бройлераў, што дазваляе дасягнуць долі пратэіна ў каўбасных вырабах звыш 20 працэнтаў.

¬–Працоўны дзень пачынаецца з азнаямлення з дакументацыяй і адсочвання тэхналагічнага працэсу вырабу прадукцыі. Сюды прыходзіць гатовае сыравіна, і мы з яго вырабляем тое, што паступае на рэалізацыю, у сетку крам «Мясная крама», напрыклад. Попытам карыстаюцца тавары ў натуральных абалонках, – распавяла Кабачэўская.

Выкарыстанне прагрэсіўных мясных кросаў, чыстых, збалансаваных і вітамінізаваных кармоў, сучаснае абсталяванне, узмоцнены кантроль якасці па сістэмах ХАССП, зладжаная работа ўсяго калектыву дазваляюць выпрабляць не толькі смачныя, але і карысныя для нашага здароўя прадукты харчавання, якія цэняцца як на айчынным рынку, так і за мяжой. Усё гэта дазваляе ТАА «Вітконпрадукт» упэўнена лідзіраваць у сваёй галіне і падымацца на новы ўзровень.

**vitvesti**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# ТРАГЕДЫЯ НА ВАДАЁМЕ

**Паблізу аграгарадка Слабада загінуў 8-гадовы хлопчык, які праваліўся пад тонкі лёд.**

Аддзелам Следчага камітэта Шумілінскага раёна праводзіцца праверка па факце смерці 8-гадовага хлопчыка, які праваліўся пад лёд.

Вядома, што 27 сакавіка каля 14.00 гадзін два аднакласнікі гулялі побач са штучным вадаёмам, размешчаным паблізу аграгарадка Слабада Шумілінскага раёна. Адзін з хлопчыкаў выйшаў на лёд, стаў слізгаць і праваліўся пад яго. Другі хлопчык паспрабаваў яго выцягнуць, аднак не змог гэтага зрабіць і пабег па дапамогу.

Дзіця дастаў з вады вартаўнік Слабадской сярэдняй школы, брыгада хуткай медыцынскай дапамогі хлопчыка даставіла ў бальніцу. Каля 20.00 гадзін у рэанімацыйным аддзяленні бальніцы медыкі канстатавалі смерць дзіцяці.

Следчыя правялі агляд месца здарэння, прызначылі судова-медыцынскую экспертызу, апыталі бацькоў і відавочцаў здарэння.

Следчыя звяртаюцца да бацькоў з просьбай быць асабліва пільнымі да дзяцей падчас школьных вакацый. Правесці з падлеткамі гутаркі аб тым, што ўжо небяспечна выходзіць на лёд на вадаёмах краіны ў такое надвор'е.

**Сяржук Крупскі**

# РЭЦЫДЫВІСТ АБАКРАЎ НЕПРАЦУЮЧАГА

**У міліцыю з заявай аб крадзяжы з хлява зварачнага апарата звярнуўся непрацуючы 52 гадовы мужчына.**

15 сакавіка ў 10 гадзін у Шумілінскі РАУС звярнуўся непрацуючы, які паведаміў, што ў ноч на 13 сакавіка неўсталяваны зламыснік з яго незачыненага хлява, размешчанага ў двары дома па месцы жыхарства, здзейсніў крадзеж зварачнага апарата.

Памер нанесенай шкоды складае 180 рублёў. Супрацоўнікамі міліцыі было ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў 39 гадовы непрацуючы, раней судзімы за крадзеж. 23 сакавіка супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа па частцы 2 артыкула 205 КК.

**Сяржук Крупскі**
**па зводках УУС.**

НОВЫЯ ТЭХНАЛОГІІ

# ПРАБЛЕМ З КАДРАМІ НЯМА

**Шумілінскі «Альянспластрэсурс» паспяхова выпускае пластыкавую тару і абцасы для абутку.**

Быць ліцейнікам няпроста, але праблем з кадрамі на адным з прыватных прадпрыемстваў Шумілінчыны няма. Гэта тлумачыцца яго бесперабойнай працай і клопатам пра людзей.

Праўда і тое, што ранейшых сувязяў яно не губляе: і асноўная частка прадукцыі, як і раней, накіроўваецца ў абласны цэнтр, і ў сітуацыях, звязаных з сур'ёзнымі паломкамі абсталявання, там дапамагаюць. Аднак многія задачы мясцовыя наладчыкі зараз паспяхова вырашаюць самі, пастаянна ўдасканальваючы прафесійныя навыкі, адзначае дырэктар прадпрыемства Аляксандр Кабанчук.

У агульнай колькасці ў штаце арганізацыі на сённяшні дзень налічваецца 52 чалавекі, значную частку якіх складаюць ліцейшчыкі. Прычым колькасць апошніх у мінулым годзе вырасла: мінулай восенню 2016 года было створана чатыры новыя працоўныя месцы. Гэта важная падзея ў цяперашніх эканамічных умовах, тым больш для такога невялікага райцэнтра як горпасёлак Шуміліна. У выніку аб'ём выпускаемай прадукцыі павялічыўся на 3%, аднак на перспектыву тут разлічваюць на рост, які можа скласці да 10%.

Дарэчы, ліцейшчыкамі ў ТАА «Альянспластресурс» працуюць толькі прадстаўніцы прыгожага полу. З кадрамі праблем няма, хоць працулёгкай не назавеш, людзі, якія прывыклі доўга разважаць і разгойдвацца, з ёй не справяцца. Каб гэта зразумець, дастаткова зазірнуць на вытворчасць і паглядзець, як мільгаюць рукі жанчын, калі яны завіхаюцца ля пластыкавай тары, складаюць і пакаюць гатовыя вырабы. Марнаваць час нявыгадна: чым меней зробіш, тым менш грошай у выніку і атрымаеш.

Не кожнаму падыдзе і тутэйшы рэжым працы – прадпрыемства функцыянуе кругласутачна, так што ліцейнікам трэба перыядычна выходзіць у начныя змены. Але нягледзячы на гэта, жадаючых уладкавацца на «Альянспластресурс» па-ранейшаму хапае, іх прываблівацюць стабільнасць, адсутнасць перабояў з выдачай заробатнай платы, абавязковы сацыяльны пакет. А тыя работнікі, хто там зараз ужо працуе, трымаюцца за сваё месца. Напрыклад, ліцейшчыкі Яўгенія Пятрова (майстар змены) і шматдзетная мама Аксана Нікалаенка працуюць на Шумілінскім прадпрыемстве з дня яго адкрыцця, і пры гэтым аб зробленым калісьці выбары не шкадуюць.

Калі ўстойлівы попыт на прадукцыю па-ранейшаму захаваецца, кіраўнікі прадпрыемства не выключаюць у перспектыве далейшага пашырэння вытворчасці і адкрыцця дадатковых працоўных месцаў.

Праўда, на сённяшні дзень штатарганізацыі максімальна скарочаны, і кожны рэальна адпрацоўвае сваю зарплату. А калі склады пустыя па прычыне таго, што прадукцыя на іх не залежваецца, а людзі задаволеныя ўмовамі працы – гэта і ёсць лепшая адзнака дзейнасці прадпрыемства.

**Алесь Шумскі**

# МАХЛЯРЫ НА “КУФАРЫ”

**Жыхарка Шумілішчыны адправіла грошы за куртку прадаўцу праз сайт куплі-продажу «Куфар», але тавар не атрымала**

Паводле супрацоўнікаў крымінальнага вышуку, апошнім часам пачасціліся выпадкі махлярстваў. Так, за снежань мінулага года і студзень-люты гэтага ў Шумілінскім раёне іх было зарэгістравана тры.

Безумоўна, сеціва дае мноства магчымасцяў для атрымання ведаў, для зносін і самаразвіцця. Аднак на жаль, тут можна сутыкнуцца з нячыстымі на руку грамадзянамі і рознымі махлярамі.

Адна жыхарка Шумілінскага раёна вырашыла купіць танную куртку на «Куфары». Адправіла загадзя прадаўцу названую суму грошай, а тавар не атрымала.

«Пакупнікам трэба быць максімальна асцярожнымі. Загадзя адпраўляць грошы за тавар — гэта вялікая рызыка, — кажа в. а. начальніка аддзялення крымінальнага вышуку РАУС Дзмітрый Касцюк. — На „Куфары“ лепш дамаўляцца пра пасылку тавару накладной платай: спачатку атрымаў тавар, а потым заплаціў грошы. Так хаця б няма рызыкі быць падмануты»».

**Сяржук Крупскі**
**па зводах УУС**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі “Світанак”, то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АНАЛІТЫКА

# НАРОД УБАЧЫЎ СПАЛОХАНУЮ ЎЛАДУ

**З аднаго боку, здаецца, нічога новага. За апошнія 22 гады нешта падобнае мы бачылі ня раз. Праз паўтарагадовы перапынак краіна вяртаецца ў свой звычайны стан. Стан халоднай (а часам і гарачай, як сёньня) грамадзянскай вайны.**

Зь іншага боку, шмат што беспрэцэдэнтна. Здаецца, ніколі раней улады ня ладзілі такіх прэвэнтыўных рэпрэсій напярэдадні Дня Волі, не было такога маштабу запужваньня грамадства баевікамі і «крывавым Майданам».

Ніколі раней праваахоўныя органы ня «шылі» так груба крымінальнай справы па артыкуле «масавыя беспарадкі» да самой акцыі 25 сакавіка. Нават пасьля 19 сьнежня 2010 году перасьлед апазыцыі грунтаваўся на сапраўдным факце — біцьці дзьвярэй у будынку Дому ўраду. Зачапіўшыся за яго, улады ўжо накручвалі абвінавачваньні. Цяпер справа «Белага легіёну» лепіцца ўвогуле на пустым месцы, абсалютна штучна. Затрымалі невінаватых людзей, якія ні сном ні духам не датычныя да таго, у чым іх абвінавачваюць. І гэта ўжо нагадвае 1937 год.

Пакуль на гэты час невядомая колькасьць затрыманых 25 сакавіка. Але, гледзячы па ўсім, лічба пацярпелых набліжаецца да той, якая фігуравала ў трагічную ноч з 19 на 20 сьнежня 2010 году. Розьніца толькі ў тым, што сёньня акцыя была абсалютна мірная (строга кажучы, і акцыі ж не адбылося, людзям не далі сабрацца ў адным месцы).

Сталіца на некалькі дзён апынулася фактычна на ваенным становішчы. Здаецца, ніколі раней не было, каб быў закрыты свабодны ўезд у горад, усе машыны спынялі міліцыянты з аўтаматамі і праўджвалі дакумэнты.

Усе гэтыя падзеі паказваюць, як моцна Лукашэнка траўмаваны шырокімі народнымі пратэстамі апошніх тыдняў. Яны за кароткі час разбурылі вобраз «народнага прэзыдэнта», які ствараўся гадамі і дзесяцігодзьдзямі. І, зразумела, ён, робячы стаўку на голую сілу і страх, хоча запужаць грамадства, якое глынула свабоды, загнаць яго назад. У пэўным сэнсе гэта дае патрэбны ўладам эфэкт.

Аднак ёсьць і адваротны бок, існуюць і нэгатыўныя наступствы грубага сілавога сцэнару. Па-першае, Лукашэнку не ўдалося схаваць уласны страх ад насельніцтва. Абывацель раптам нечакана для сябе ўбачыў спалоханую ўладу, якая давяла саму сябе да стану ваяўнічага псыхозу. А ў такой сытуацыі нярэдка «зносіць дах». І гэта не абавязкова сьведчыць пра сілу існага рэжыму. Бо моцная ўлада не пераходзіць мяжу неабходнай абароны.

Па-другое, улады ўласнымі рукамі разбураюць канструкт стабільнасьці, якой яшчэ нядаўна яны моцна ганарыліся. Калі ў сталіцы фактычна ўводзіцца ваеннае становішча, горад запоўнены ўзброенымі фармаваньнямі, міліцыянты ходзяць з аўтаматамі, то пра якую стабільнасьць можна весьці гаворку? Гэта краіна ў стане вялікіх забурэньняў.

Па-трэцяе, абвяшчаючы ворагамі ўсіх, хто выходзіць на вуліцу з пратэстам, улады фактычна дэлегітымізавалі, атаясамілі з апазыцыяй і баевікамі тых людзей, якія цэлы месяц у рэгіёнах пратэставалі супраць дэкрэту № 3. А ім спачувала ці ня большасьць насельніцтва. Разгарнуўшы зацятую барацьбу з апазыцыяй, улады рызыкуюць апынуцца ў стане вайны з народам. З улікам таго, што грамадства за апошні месяц моцна палітызавалася, сілавы разгон акцыі 25 сакавіка можа спарадзіць вялікую нянавісьць да ўлады. Вядома ж, што ад любові да нянавісьці ўсяго адзін крок.

Якія наступствы? Лукашэнка прыйшоў да высновы, што лібэралізацыя, нават касмэтычная, у спалучэньні з глыбокім сацыяльна-эканамічным крызісам — гэта небясьпечны кактэйль. Таму, думаю, з гульнёй у нейкі новы вобраз Беларусі скончана.

Усьлед за касмэтычнай лібэралізацыяй пала сьмерцю храбрых і мяккая беларусізацыя. Зьвярніце ўвагу, на ролю баевікоў прызначылі ня нейкіх прадстаўнікоў прарасейскіх арганізацый, напрыклад, тых жа казакоў, якія ладзяць шматлікія летнікі для моладзі. Пра гэта шмат пісалі незалежныя мэдыі. Не, на гэтую ролю ўзялі людзей з нацыянальна-дэмакратычнага лягера, беларускамоўных.

Незразумелая велічыня — як паўплываюць апошнія падзеі на дачыненьні з Захадам? Пакуль ЭЗ і ЗША было не да Беларусі.

Такім чынам, Лукашэнка імкнецца вярнуць грамадства назад. Але ці можна ўвайсьці ў адну раку двойчы?

**Валеры Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**




ДЗЕНЬ ВОЛІ

# ПОЛИЦЕЙСКОЕ ГОСУДАРСТВО БЕЗ ПРИКРАС

**Режим Лукашенко, напуганный протестами, сделал ставку на грубую силу. Но сегодняшний разгром Дня Воли — это пиррова победа. Пропасть между властью и народом растет...**

С утра 25 марта политизированные белорусы обменивались в социальных сетях советами, «как идти на праздник» (то есть что иметь с собой на случай ареста). Это все, что нужно знать об атмосфере в Беларуси в День Воли 25 марта 2017 года.

К сожалению, советы оказались востребованными. День Воли в Минске ознаменовался массовым хапуном, масштабы которого пока трудно уточнить, но счет идет на сотни задержанных.

В частности, около 60 человек ОМОН взял в офисе закрытой в свое время «Вясны» (очевидно, чтобы сорвать наблюдение за акцией, потом правозащитников отпустили). Если журналистам поначалу позволяли работать, то потом стали винтить и их.

Впрочем, крупнейшие независимые СМИ, несмотря на помехи, хладнокровно и профессионально вели прямые репортажи, так что очередной акт белорусской политической драмы разворачивался перед всем миром в режиме онлайн.

**Антураж войны. Только с кем?**

Власти, поставившие цель любой ценой задавить уличные протесты (которые развивались с февраля и были спровоцированы декретом «о тунеядцах»), в день неофициального, но сакрального для оппозиции праздника 25 марта — годовщины образования Белорусской Народной Республики — решили не мудрить.

Накануне, де-факто запретив заявленную акцию, режим априори поставил участников мирного протеста в положение нарушителей, а значит — беззащитных жертв.

Силовики просто перекрыли подходы к площадке у Академии наук, где хотели собраться на акцию оппозиционно настроенные граждане. Часть их с бело-красно-белыми национальными флагами, сгруппировавшись у площади Якуба Коласа, пыталась пройти вдоль проспекта Независимости к центру, но подразделения ОМОНа блокировали манифестантов, хватали и грузили в автозаки.

Некоторых при этом зверски били, волокли по земле. Под зачистку попадали и случайные прохожие, даже пожилые женщины с полиэтиленовыми пакетами.

Концентрация людей в униформе, спецтехники была такой, что это напоминало войну. Только на улице Академической журналисты насчитали не менее 20 автозаков. Были замечены водометы, броневики. Часть милиции снабдили ружьями для стрельбы резиновыми пулями, противогазами. Автоматчики дежурили на трассах, ведущих в Минск.

Сегодня белорусы увидели, что полицейское государство — не метафора, а материализованная у нас мрачная реальность.

Причем никакими пропагандистскими ухищрениями не докажешь, что тысячи человек, вышедших на улицы несмотря на массированное запугивание, — это «кучка отморозков» (выражение официального лидера), которой управляют-де зарубежные кукловоды.

Хотя следует ожидать, что в ближайшее время поток официальной лжи будет особенно густым и грязным.

**Маски сброшены**

Какие же выводы можно сделать после сегодняшнего брутального разгрома Дня Воли в столице?

Режим, который полтора года в надежде на западные деньги демонстрировал «мягкие практики» (участников уличных акций только штрафовали, но не винтили, не сажали за решетку), ни на йоту не изменил своей сути.

Как только Александр Лукашенко определил для себя, что акции «дармоедов», в которые вписалась и структурированная оппозиция, стали представлять собой угрозу системе (хотя здесь возникает вопрос о силе фобий), все условности были тут же отброшены.

Белорусское руководство решило не стесняться и перед Европой. Сейчас четко видно, что у Евросоюза нет действенных инструментов для работы с режимами типа белорусского. Санкции не дали нужного эффекта и в прошлом году были отменены. Новый, более мягкий подход, как видим, тоже подвисает. Режим и не думает подлаживаться под европейские ценности.

Теперь Брюссель перед вызовом: или слегка попенять и продолжить взаимодействие в духе «реалполитик», или возвращаться к жесткому подходу (некоторые оппозиционеры уже призвали возобновить санкции).

Минск, очевидно, рассчитывает, что европейские политики — слабаки (Лукашенко в свое время выразился сочнее, констатировав отсутствие у них гениталий). Да и административные аресты — все же не тот повод, чтобы снова вводить санкции. Вдобавок можно втолковать наивным (или изображающим наив) визитерам типа спецдокладчика ПАСЕ Андреа Ригони, что силовики действуют строго по закону.

В принципе же реакция Запада не имеет для белорусских властей определяющего значения, когда они решают сверхзадачу — устранить угрозы режиму (или то, что наверху воспринимают как угрозы).

**Мрачное дежавю**

Сегодняшние события в несколько редуцированном варианте напоминают разгром Площади 19 декабря 2010 года. Власти извлекли урок из тех событий и постарались подавить нынешнюю акцию в зародыше, не давая шествию сформироваться.

Но эта якобы победа, достигнутая грубой силой тренированных «робокопов», может оказаться пирровой. «Это самый самоубийственный вариант, который власть могла использовать», — так накануне отозвалась о ставке правящей верхушки на репрессии нобелевская лауреатка Светлана Алексиевич.

После Площади-2010 противники режима приходили в себя несколько лет. Сейчас такого периода относительного комфорта власти, скорее всего, не получат.

Экономическая ситуация плохая и будет ухудшаться. Ответов на экономические вызовы, воли к реформам наверху нет. У протестов февраля — марта была во многом новая база: в них активно участвовал и прежде твердый электорат Лукашенко…

**Слепая жажда власти**

Срывом в репрессии режим явно ухудшает свои внешнеполитические позиции. С одной стороны, теперь еще сложнее надеяться на западную поддержку, в том числе финансово-экономическую. С другой стороны, Москве станет сподручнее дожимать Минск в сегодняшнем многоплановом конфликте. Возрастают угрозы независимости.

Сегодня руководство режима подтвердило: у него нет мудрости для трансформации системы, что было бы оптимальным вариантом для всего общества. Все заглушено желанием удержать господство любой ценой.

А это означает, что перемены в Беларуси когда-нибудь могут пойти именно тем путем, который так страшит правящую верхушку.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**http://naviny.by**

ПЕРАД СВЯТАМ

# ПОЧЕМУ У ВЛАСТЕЙ «СОРВАЛО КРЫШУ»?

**Кто или что так сильно напугало руководство страны, что оно на 180 градусов развернулись от политики, которую проводило в последние полтора года?**

**«Власть в Беларуси никогда не менялась»**

Политолог Валерий Карбалевич отмечает: власти перешли к традиционным методам борьбы с оппозицией.

— Так было всегда, только в последние полтора года, в период оттепели власти отказывались от привычных методов, а теперь вернулись к своему естественному состоянию. Скорее атипичным был этот полуторагодовой период, — констатирует эксперт.

Власть в Беларуси никогда не менялась, подчеркивает и председатель юридической комиссии Белорусского Хельсинкского комитета Гарри Погоняйло.

— В условиях, когда Россия не дает кредитов, в том числе и для погашения внешнего экономического долга, для осуществления внутренних расчетов и необходимости развиваться, власти пытались заигрывать с Западом. На самом деле природа власти не изменилась, никаких системных перемен не произошло, — подчеркивает юрист.

**«Пошла волна на волну»**

Власти боятся, что экономические трудности, с которыми сегодня столкнулось население: обнищание, безработица, рост цен — вынудят народ открыто продемонстрировать свое несогласие с правительством.

— Волна активных протестных действий по декрету № 3 всполошила власти. В канун Дня Воли — традиционной массовой акции, видимо, у кого-то сдали нервы и была дана команда жестко воспрепятствовать этой массовой акции, в особенности выходу большого количества людей, — считает Гарри Погоняйло. — Пошла волна на волну.

По словам Валерия Карбалевича, власти очень напуганы народными протестами и решили перейти в наступление.

— Первым делом они решили дискредитировать оппозицию, отождествить мирные акции протеста с вооруженными действиями, с боевиками, террористами, для чего в информационное пространство запускаются разные фейки типа того, что у анархистов забрали холодное оружие, что с украинской территории прорываются автомобили с оружием, — обращает внимание аналитик.

По поводу задержания Дмитрия Дашкевича политолог говорит: «Это нейтрализация лидеров оппозиции перед 25 марта».

Эксперты опасаются, что за Дашкевичем последуют другие известные лидеры оппозиции.

— Власти пытаются изолировать всех лидеров общественных объединений, движений, которые выводят людей на улицы для оказания публичного давления на власть, с тем, чтобы уменьшить накал, продемонстрировать, что в стране все благополучно, — подчеркивает Гарри Погоняйло.

**«Всех запугать и нейтрализовать»**

Между тем, по всей стране проходят уличные акции протеста. Причем, социальная база у них совсем другая, чем у традиционных оппозиционных акций, — это обыватели и часто электорат Лукашенко.

— Власти понимают, что люди, которые выходят на площади — это только вершина айсберга, а в глубине прячется очень большое недовольство властью. Вот и последовала силовая реакция — всех запугать и таким образом нейтрализовать народный протест, — отмечает Валерий Карбалевич.

На этой волне власти «реанимировали» забытый многими «Белый легион», поведали о палаточном лагере «Бригантина», о котором вчера еще почти никто даже не знал.

— А что делать, если силовикам дана команда найти боевиков, а их реально нет? — отвечает вопросом на вопрос политолог. — Значит, их нужно искать, искусственно создавать.

Эксперт сомневается, что это дело дойдет до суда, но показать по телевизору, рассказать, что такие страшные боевики готовили государственный переворот, это попытка запугать народ.

*(скарочана)*

**Геннадий Косарев**
**Завтра твоей страны**

ДЗЕНЬ ВОЛІ: ВІЦЕБСК

# «БАНДУ — ГЭЦЬ!..»

**“..Мы прагонім банду і зажывём шчасліва." Так заявіў у Віцебску на Дзень Волі гарадоцкі актывіст Леанід Аўтухоў, а потым ён быў затрыманы.**

В Витебске 25 марта прошла не разрешенная властями города акция, посвященная празднованию Дня Воли. В ней участвовали примерно 150 человек. Горожане собрались в полдень на площади Победы, а затем прошли колонной по улицам Ленина и Суворова к памятнику Владимиру Короткевичу.

На площади Победы к горожанам вышли начальник отдела охраны правопорядка УВД Витебского облисполкома Александр Калиновский и заместитель председателя горисполкома Петр Подгурский.

Представитель УВД сообщил, что власти города не разрешили сегодня в этом месте проводить какие-то мероприятия, и попросил всех разойтись.

— Я вас предупредил, выже принимайте решение, — заявил Калиновский.

— Хватит бояться, пора сопротивляться, — раздалось из толпы.

— Уважаемые коллеги! — обратился к людям заместитель председателя горисполкома Петр Подгурский. — Я подтверждаю слова товарища подполковника о том, что заявка на массовое мероприятие на площади Победы не согласована с органами власти. Если у вас есть какие-то вопросы, приходите, пожалуйста, в понедельник в горисполком. Все решим в индивидуальном порядке.

— Цепные псы! — возмутился кто-то.

— Никакие мы не цепные псы, — возразил Подгурский. — Мы работаем и продолжаем работать. Вам только кажется, что мы не работаем. А на несанкционированном митинге никакие вопросы мы решать не можем. Уважаемые коллеги, еще раз: у кого есть вопросы, пожалуйста, в понедельник, в 9 утра, я вас жду.

После этого демократический активист Христофор Желяпов предложил горожанам пойти в центр города и возложить цветы — к мемориальной доске в честь Василя Быкова, памятникам князю Ольгерду и Владимиру Короткевичу.

Колонна мирно двинулась вперед, перед светофорами люди останавливались, шествие сопровождали милицейские машины. Впереди шли с бело-красно-белыми флагами Христофор Желяпов и активист БНФ из Городка Леонид Автухов.

Возле памятника князю Ольгерду Христофор Желяпов выступил с небольшой речью, отметив, что белорусам необходимо сохранить суверенитет страны:

— Мы не дадзім нікому пасягаць на нашу краіну, на наш лёс, на наша жыццё, на наших дзяцей.

Затем участники акции возложили цветы к мемориальной доске Василю Быкову, которая установлена на доме № 3 на улице Суворова.

После этого колонна отправилась к конечной точке маршрута — к памятнику Владимиру Короткевичу в парке Партизанской славы. Здесь прошел короткий митинг.

Слово взял Христофор Желяпов: — Каля помніка Караткевічу мы мусім успомніць, што ў беларусаў ёсць гісторыя. Нам з Крамля кажуць, што няма беларускага народа, што мы не дзяржава, не нацыя. Але ж мы ведаем, што калі па Маскве яшчэ бегалі куры па вуліцах, у нас ужо былі гарады, замкі, Вялікае княства Літоўскае. І адтуль ідуць карані беларусаў. І таму мы мусім казаць: Беларусь — гэта вялікая духоўная нацыя.

Милиция не вмешивалась в события ни во время шествия по городу, ни на митинге возле памятника Короткевичу. Но после того как акция завершилась, был задержан Леонид Автухов. Чуть позже задержали журналистов «Белсата» Ольгу Чайчиц и Андрея Козера, корреспондента «Радыё Рацыя» Артема Сивенцева.

Примечательно, что акцию в честь Дня Воли в Витебске освещали не только корреспонденты независимых изданий. На нее пришли региональные журналисты ведущих республиканских государственных СМИ — БЕЛТА, ОНТ, СТВ, «Беларусь 1», «СБ Беларусь Сегодня».

**Татьяна Матвеева**
**TUT.BY**

РЭАКЦЫЯ З ФЭЙСБУКА

# «…ЭТО СТРАШНОЕ ЗРЕЛИЩЕ»

**«Салідарнасць» собрала реакцию лидеров мнений на разгон акции 25 марта в Минске**

**Сергей Ерженков** (телеканал «Дождь») написал в Фейсбуке: «Когда мне говорили, что в Беларуси выведена особая порода людей, и они даже по внешним антропологическим признакам имеют мало общего с остальными белорусами, я, признаться, считал это преувеличением. Сегодня я лицом к лицу столкнулся с этими бойцовскими сторожевыми без намордников.

Гримасы ненависти, оскаленные морды. Втроем-впятером они избивали стариков и женщин. Не знаю, как их дрессируют, чем их накачивают, но это страшное зрелище. Ни на одном российском митинге меня не покидало ощущение, что в случае задержания есть, пусть и призрачный, шанс договориться. Тут этого ощущения не было. «Гэтыя быкі, маюць сваю праўду: Ім не трэба сонца, цемры ім багата».

**Роман Левковский** запомнит 25 марта 2017-го в Минске на всю жизнь: «Нет, не потому, что задержали, или отвезли, а потому что... Я НЕ ВИДЕЛ СТРАХА! — пишет Роман в Фейсбуке. — Когда нас, всего полтора десятка случайных гражданских целое море в черном и спецсредствах прижало к магазину „Океан“, я не видел страха. В пяти метрах от нас паковали людей в автобусы. Одного... второго... третьего... А наша молодежь нагло ржала. И даже я возмутился, ну чего ржать, ведь вы можете быть следующими. И они были следующими. Но страха не было.

И когда я в тесной камере автозака бросал в чёрную темноту „Приветствую!“, мне отвечал не страх, а „Привет!“. И мы воевали с перепуганными милициянтами, которые всё никак не могли забрать у человека телефон, всё время вызывая старшего, пока „старшие“ не кончились на прапорщике. Мы пререкались с „сотрудниками“ в длинной очереди в РОВД. На процедуре составления протоколов у меня округлялись глаза, когда человеки твёрдым голосом рассказывали: „Я шёл на митинг, на День Воли“. Я не видел страха. Ни в глазах, ни в душах».

**Лариса Белковская** на своей странице в Фейсбуке обращает внимание на то, как странно и сюрреалистично выглядит «все это войско Саурона».

«И никак не доходит, что это не кино, а по-настоящему. Когда-то демонстрации не разгоняли. ...Когда заканчивались занятия в универе, я тоже шла с ними. Потому что это казалось правильным и по-другому нельзя. Потом перестала ходить, потому что показалось, что это ничего не меняет.

Прошло много времени, и какое-то дурацкое чувство мухи завязшей в варенье и дня сурка. Кто-то живет во дворцах, а кому-то мать-пенсионерка отдает последние деньги, чтоб было чем заплатить налог на тунеядство. И чувак уходить не собирается, потому что слишком далеко зашел. Злые силы подпитываются забитыми, озлобленными, никогда не знавшими хорошей жизни людьми, у которых один свет в оконце — узнавать из телевизора о том, что кто-то могущественный но в то же время свой в доску от***дил каких-то выскочек и злорадствовать по этому поводу».

**Марина Мацулевич** в День Воли подходила к нескольким группам людей в форме и спрашивала: «Что происходит?». Ей все отвечали, что защищают ее безопасность.

«Я, конечно же, понимаю, что меня надо защищать от поэта с палочкой, от Нины Багинской с флагом, от журналистов с камерами....Они все очень опасны для общества, потому что показывают все болезни. Но для меня остался открытым вопрос: «А кто меня защитит от „защитников“?».

**Алена Антонова**
**http://gazetaby.com**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.03.2017 у 17.35**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.